# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы ЦП, інфармацыя, адказы на запытаньні і крытычна-дыскусыйны матар'ял з месц)

№ 4 (22) 15-га САКАВІКА 1929 году № 4 (22)


## З Ь М Е С Т.

### А. Пастановы Прэзыдыуму ЦП Саюзу.



### Б. Дырэктывы ЦП Саюзу



## Аб рабоце вытворчых нарад у саўгасах, лясьніцтвах і мэліторпараспрацоўках

Прэзыдыум ЦП саюзу Селгаслесрабочых на паседжэньні сваім ад 13 га сакавіка 1929 г. па пытаньню „Аб рабоце вытворчых нарад у саўгасах (у сувязі з пасеўнай кампаніяй), лясніцтвах і мэліторпараспрацоўках“ па дакладу т. Колядзенка, выняс наступную пастанову;

1) Ажыцьцяўленьне плянавых заданьняў саюзу па ўзмацненьню буйнае сельскае і лясное гаспадаркі (падвышэньне ўраджайнасьці, уздым вытворчасьці, зьніжэньне сабекаштоўнасьці прадуктаў вытворчасьці, тэхнічныя ўдасканаленьні, арганізацыя працы і вытворчасьці, пытаньні вылучэньня і г.д.) магчыма толькі пры шырокім удзеле саміх рабочых, работніц і спэцыялістых у гэтым, праз плянавую і сыстэматычную работу вытворчых камісій і нарад.

2) Канстатуючы яшчэ досіць слабую працу вытворчых нарад і камісій на мясцох, як та: адсутнасьць яскравай мэты для іх працы, адсутнасьць цьвёрдага пляну працы, не праапрацоўка таго ці іншага пытаньня да абгаварэньня яго на вытворчай нарадзе—у камісіі, ці рабачкоме з актывам, абгаварэньне на вытворчай нарадзе 3-5 пытаньняў (саўгас Полялюм, Неманіцкае л-ва) і г. д. і ў мэтах узмацненьня працы іх, Прэзыдыум ЦП саюзу пастанаўляе:

1) Кожная нізовая ячэйка-рабачком тарпком павінны ў аснову працы вытворчых нарад паставіць канкрэтныя задачы па прынцыпу:

### У саўгасах:

а) Дабіцца падвышэньня ўраджайнасьці ў гэтым годзе на 20 проц.

б) Павялічыць прыбытковасьць гаспадаркі на 10 проц.

в) Зьнізіць сабекаштоўнасьць прадуктаў вытворчасьці гаспадаркі на 7 %, зьнізіць накладныя выдаткі.

г) Пераход на зьдельшчыну і рацыянальнае скарыстоўваньне рабочай сілы.

д) Арганізаванае і падрыхтаванае правядзеньне пасеўных кампаній і г. д.

е) Арганізацыя ў раёне саўгасу няменш аднаго калгасу, праводзячы

ăгрыкультурную работу саўгасаў у напрамку уздейнічэньня на калектывізацыю бедняцка-серадняцкія селянскіх гаспадарак.

### У лясьніцтвах:

а) Скараціць ня менш, як на 50 % самавольныя парубкі.

б) Забясьпечыць 100 проц. захаваньне маладняку ад шкодніцтва, плянавае абсемяненьне лясных пустыроў і г. д.

в) Упарадкаваць і спросьціць працэсы пераліку драўніны ў лесасеках, нагрузка на лясных работнікаў у зьвязку з гэтым і г. д.

г) Знайсьці практычныя мерапрыемствы па больш плянаваму і рацыянальнаму правядзеньню гаспадарчых лесараспрацовак і г. д.

### На мэлторпараспрацоўках:

а) Павысіць вытворчасьць працы на 15-20 проц.

б) Забясьпечыць падрыхтоўку мясцовае кваліфікаванае рабочае сілы, стварыўшы ўмовы, каб кожны батрак, працуючы ў арцелі, стаў у працягу сэзону кваліфікаваным рабочым.

в) Знайсьці практычныя мерапрыемствы па рацыяналізацыі аддзельных працэсаў работы (пагрузка торпу, пераноска яго перасованьне машын і г. д. што дасьць найменшую затрату на гэта часу і рабочае сілы.

2) На падставе асноўных задач праца вытворчых нарад і камісій практычна павінна быць пабудована ў напрамку абгаварэньня і вырашэньня наступных асноўных пытаньняў:

### Па лініі саўгасаў:

1) Прапрацоўваць вытворчыя пляны і грашовыя каштарысы на 1929 год, як частку пяцігодкі, па ўсіх галінах будаўніцтва (жыльлёвае будаўніцтва, рэмонты, пабудова новых тэхнічных прадпрыемстваў, набыцьцё інвэнтару і г. д.) у напрамку--вывучэньня іх рабочымі і дэталжзацыі іх заўвагамі рабочых на падставе рабочага вопыту.

2) Прапрацоўваць мерапрыемствы падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўнай кампаніі, маючы плянавае заданьне падвышэньня ўраджайнасьці на 20 проц. за 1929 г. у напрамку:

а) Забесьпячэньня насенным матар'ялам па ўсіх відах культур, добраякасьці насеньня, сваечасовай ачыстқі насеньня як для саўгасаў, так і для вакольнай бедняцка-серадняцкай часткі селянства.

б) Сваечасовай падрыхтоўкі с.-г. інвэнтару.

в) Угнаеньня глебы.

г) Сваечасовага пачатку работ і добраякасьці ўспашкі і засеву.

д) Сваечасовай падрыхтоўкі патрэбнай рабочай сілы (сэзоньнікаў), узяўшы цьвёрды напрамак на зьменшаньне ліку падзёншчыкаў і г. д.

3) Прапрацаваць перавод на зьдельшчыну магчымых у ўмовах саўгасу відаў работ (пахата, баранаваньне, сяўба, касьба, жатва, магчымыя віды работ на тэхнічных прадпрыемствах, агародніх і садовых работах і г. д.) у сувязі з гэтым распрацаваць і ўстанавіць нормы выпрацоўкі на адзінку.

4) Абгаварыць мерапрыемствы да ўборкі ўраджаю (арганізацыя і разьмяркаваньне рабочай сілы, падрыхтоўка машын, вучот і г. д.)

5) Прапрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы да асеньняй пасеўнай кампаніі і абмалоту ўраджаю (сваечасовая падрыхтоўка насеньня, снабжэньне насеньнем селянства, сваечасовы пачатак работы, вучот пры абмалоце і г. д.)

6) Устанаўленьне сабекаштоўнасьці прадуктаў вытворчасьці саўгасаў. Абгаварэньне пытаньня рэалізацыі ўраджаю.

7) Нагрузка сыравінай тэхнічных прадпрыемств.

8) Пытаньні вылучэньня-абгаварэньне намечаных кандыдатур на вылучэньне па лініі саўгасаў.

9) Праверка выкананьня вытворчага і грашавага пляну, працанту падвышэньня ўраджайнасьці і г. д.

### Па лініі лясьніцтв:

1) Абгаварэньне прычын самавольных парубак і практычных мерапрыемств па зьменшаньню ліку парубак у 1929 г. на 50 проц.

2) Абгаварэньне пытаньняў лесаабсемяненьня (загатоўка насеньня, закладка пітомнікаў, пасадка і пасеў, арганізацыя арцеляў па пасадцы лесу безпрацоўнага батрацтва).

3) Абгаварэньне практычных мерапрыемстваў па захаваньню лясного маладняка і засеянных плошчаў ад шкоднікаў.

4) Прапрацоўка і ўстанаўленьне мерапрыемств па барацьбе з ляснымі пажарамі.

5) Устанаўленьне месц (абходаў і аб'ездаў), дзе ў першаю чаргу павінны быць пабудованы дамы для лясных работнікаў.

6) Абгаварэньне парадку больш мэтазгоднага скарыстаньня лясных сядзіб (сенажаць, плошчы ад лесасек, смалакурэньне і г. д.).

7) Прапрацоўка пытаньня практыкі адводу лесасек, таксацыі драўніны ў адведзеных лесасеках з тым, каб больш правідлова вулічэсьць драўніну будаўнічай якасьці, бо ёсьць выпадкі, што пры лесараспрацоўках аказваеца будаўнічай драўніны больш на 30 40 проц., чым у пералікавых ведамасьцях.

8) Абгаварэньне мерапрыемстваў па больш хуткаму і спрошчанаму парадку водпуску лесаматар'ялаў і дроў насельніцтву.

9) Абгаварэньне канкрэтных мерапрыемстваў на лесараспрацоўках у напрамку: азнамленьня з праграмай, парадку ўдзелу работнікаў лясьніцтва ў распрацоўках штату, норм нагрузкі, арганізацыі рабочых арцеляў рубшчыкаў з батрацтва і г. д.

10) Пытаньні вылучэньня лясных работнікаў.

**Па лініі мэліарацыйных і тарпяных распрацовак.**

1) Прапрацаваць пытаньне арганізацыі і падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы з мясцовага батрацтва (арганізацыя арцеляў).

2) Прапрацаваць і ўстанавіць нормы выпрацоўкі на адзінку рабочай сілы.

3) Абгаварыць мерапрыемствы па зьменшаньню прагулаў і павялічэньню вытворчасьці, узяўшы напрамак на павялічэньне апошняй (вытворчасьці) на 15-20 проц.

4) Прапрацаваць і вышукаць мерапрыемствы тэхнічнага характару ў напрамку: найменшай затраты рабочай сілы і энэргіі на перасованьне машын з аднаго месца на другое, зьнішчэньня карчоў, каменьняў і інш. перашкод.

5) Прапрацаваць і вышукаць больш лёгкія спосабы пераноскі торпу.

6) Прапрацаваць пытаньні магчымай рацыяналізацыі вытворчых працэсаў (пагрузка торпу, пабудова перамычак і г. д.).

7) Абгаварыць пытаньне забясьпячэньня рабочых жыльём (тыпу баракаў) і пытаньне прыстасаваньня працы кантory да вытворчасьці (разрахункі, выдача інструменту і г. д.).

8) Абгаварыць пытаньне аб вылучэньні намечаных кандыдатур з рабочых на кіруючую тэхнічную працу (дзесятнікамі, ст. рабочымі і інш.).

Рабоце вытворчых нарад прыдаць строга плянавы характар, праводзячы іх не радзей аднаго разу ў м-ц, уцягваючы ў іх працу ўсіх рабочых, работніц, моладзь і спэцыялістых.

1) Адміністрацыя прадпрыемствасаўгасаў, лясьніцтваў, мэліарацыйных і тарпяных распрацовак павінна патрэбны матар'ял па таму ці іншаму пытаньню, прызначанаму па пляну для абгаварэньня на вытворчай нарадзе, прадставіць рабачкому, ці вытворчай камісіі за 2-3 тыдні.

2) Вытворчая камісія, а там дзе яе няма, рабачком з актывам павінны ў працягу 2-3 тыдняў прапрацаваць пытаньне і на вытворчую нараду вынесьці ўжо прапрацаваны матар'ял-праэкт рашэньня.

3) Рабачкомы павінны завесьці строгі вучот прапаноў аддзельных таварышоў, рашэньняў вытворчых нарад і выкананьня іх адміністрацыяй, зьвярнуўшы ўвагу на яскравасьць фармуліраваньня, прапаноў рабочых у пратаколе, а таксама і на тое, каму даручаецца выкананьне і к якому тэрміну.

4) Даручыць АТЭ ЦП саюзу сумесна з гаспадарчымі органамі (Белсельтрэст, Лясная Група НКЗБ, Лесзаг, Белторптрэст і Адмэліязем) распрацаваць кнігу вучоту рашэньняў вытворчых нарад і выкананьня іх адміністрацыяй і за кошт гаспадарчых органаў забясьпечыць кожную нізовую вытворчую ячэйку кнігамі вучоту. Абавязаць усіх работнікаў саюзных і гаспадарчых органаў, выяжджаючых на працу на перэфэрыю-саўгас, лясьніцтва, мэліарацыйныя і торпараспрацоўкі правераць кнігі вучоту, а гэтым

самым працу вытворчых нарад выконваемасьць рашэньняў вытворчых нарад і даваць належныя паказаньні.

5) Раённыя Інструктары ЦП саюзу павінны сканцэнтраваць усю ўвагу на ўпарадкаваньне гэтай галіны працы, практычна дапамагаючы рабачкомам арганізаваць яе згодна гэтай дырэктывы, а таксама у ва ўсіх гаспадарках налічываючых 20 і больш рабочых арганізаваць вытворчыя камісіі.

6) Канкрэтныя каляндарныя пляны працы вытворчых нарад пабудаваць у наступным парадку (прыкладна)

**У саўгасах:**

а) Асноўныя плянавыя заданія:

1) Дабіцца падвышэньня ўраджайнасьці ў гэтым годзе на 20 проц.

2) Павялічыць прыбытковасць гаспадаркі на 20 проц.

3) Зьнізіць сабекаштоўнась прадуктаў вытворчасьці гаспадаркі на 7 проц., зьнізіць накладныя выдаткі.

4) Пераход на зьдзельшчыну і рацыянальнае скарыстоўваньне рабочай сілы.

5) Арганізаванае і падрыхтаванае правядзеньне пасеўных кампаній і г. д.

6) Арганізацыя ў раёне саўгасу аднаго калгасу.

б) Каляндарны плян. (прыкладна)

| №№ па пар. | Назва пытаньня, разглядаемых на вытворчых нарадах. | Калі абгаворац. пытаньне. | Тэрмін падрыхтоўкі пытаньня ў камісіі і актыве | Калі прадстаўляецца пат зб матэр"ял адміністрацыяй |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Прапрацоўка вытворчага пляну і каштарысу саўгасу на 29 г. | 15-III | 1—14-III | 1-III |
| 2 | Ход падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўкампаніі. . . . | 25-III | 10—24 III | 10-III |
| 3 | Аб пераходзе на зьдзельшчыну і абгаварэньне норм выпрац. | 15-IV | 26-III-15-IV | 26-III |
| 4 | Абгаварэньне кандыдатаў па вылучэньню ў саўгасе . . | 20-V | 1—24-V | 1-V |
| 5 | Падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю . , | 25-VI | 1—25-VI | 1-VI |
| 6 | Ход падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўкампаніі , . . | 25-VII | 1—25-VII | 1-VII |
| 7 | Аб арганізацыі калгасу ў раёне саўгасу | 1-VIII | 1—10-VIII | 1-VIII |
| 8 | Нагрузка сыравіннай тэх. прадпрыемстваў . | 1-IX | 15-VIII-1-IX | 15-VIII |
| 9 | Устанаўленьне сабекошту прадуктаў вытворчасьці . . | 10-X | 25-IX-10-X | 25-IX |
| 10 | Праверка выкананьня вытворчага пляну, каштарысу і падвышэньня ўраджайнасьці . . | 1-XI | 10-X-1-XI | 10-X |
| 11 | Прапрацоўка вытворчага пляну і каштарысу на 1930 г. | 1-XII | 1-XI-1-XII | 1-I |

**Па лясьніцтвах:**

а) Асноўныя заданьні:

1) Скараціць ня менш як на 50 проц. самавольныя парубкі.

2) Забясьпечыць 100 проц. захоўваньне маладняку ад шкодніцтва, плянавае абсемяненьне лясных пустыроў і. г. д.

3) Упарадкаваць і спросьціць працэсы пераліку драўніны ў лесасеках, нагрузка на лясных работнікаў у зьвязку з гэтым і г. д.

4) Знайсьці практкычныя мерапрыемствы па больш плянаваму і рацыячальнаму правядзеньню гаспадарчых лесараспрацовак.

б) Каляндарны плян: (прыкладна)

| №№ па пар. | Назва пытаньняў разглядваемых на вытворчых нарадах. | Калі абгаварваецца пытаньне. | Тэрмін падрыхтоўкі пытаньня ў камісіі і актыве | Калі прадст патрбны матэр"ял адміністрац |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Абгаварэньне прычын самавольных парубак і практычныя мерапрыемствы па зьменшэньню іх на 1929 г. на 50 проц. (мэтазгоднасьць устанаўленьня коннай міліцыі) . . | 25-III | 5—24 III | 5-III |
| 2 | Прапрацоўка пытаньня лесакультуры (загатоўка насеньня, закладка пітомнікә, пасадка і пасеў і г. д. . . | | | |
| 3 | Абгаварэньне пытатаньня аб практычных мерапрыемствах па барацьбе з ляснымі пажарамі . . . | 25-IV | 5—24 IV | 5-IV |

| №№ па пар. | Назва пытаньняў, разглядаемых на вытворчых нарадах. | Калі абгаваран. пытаньне | Тэрмін падрыхтоўкі пытаньня ў камісіі ці акытве | Калі прадстаўлецца патрэб матар'ял адміністрацыяй |
|---|---|---|---|---|
| 4 | Аб жылбудаўніцтве і рамонту дзярж. будынкаў для лясных работнікаў (дзе, у якім абходзе і аб'езьдзе будаваць, альбо рэмантаваць) . . . | 25-V | 5—24-IV | 5-V |
| 5 | Прапрацоўка пытаньня адводу лесасек, таксацыі драўніны і г. д | 25-VI | 5—24-VI | 5-VI |
| 6 | Працоўка пытаньняў аб даглядзе за лесам (прарэжваньне, прачыстка, выборка перастойнага лесу сямяньнікоў і валежн. лесу | 25-VII | 5—24-VII | 5-VII |
| 7 | Абгаварэньне пытаньня лесарапрацовак (праграма, рацыяналізацыя лесарапрацовак, рабочае пытаньне на лесарапрацоўках) | 25-VIII | 5—24-VIII | 5-VIII |
| 8 | Прапрацоўка вытворч. пляну і каштарысу л-ва | 25-IX | 5—24-IX | 5-XI |
| 9 | Абгаварэньне мерапрыемстваў аб водпуску лесу (хуткасьць і спрошчанасьць водпуску лесаматар'ялаў і дроў насельніцтву. Магчымасьці і мерапрыемствы водпуску насельніцтву лесамат. у гатовым відзе . . | 25-X | 5—24-X | 5-X |
| 10 | Абгаварэньне парадку больш мэтазгоднага скарыстаньня лясных сядзіб (сенажаці, плошчы ад лесасекі і г. д.) | 25-XI | 5—24-XI | 5-XI |
| 11 | Пытаньне вылучэньня лясных работнікаў . | 25-XII | 5—24-XII | 5-XII |

**На мэлторпарапрацоўках:**

а) Асноўноўныя плянавыя заданьні:

1) Павысіць вытворчасць працы на 15-20 проц.

2) Забясьпечыць падрыхтоўку мясцовае кваліфікаванае рабочае сілы, стварыўшы ўмовы, каб кожны батрак, працуючы ў арцелі стаў ў працягу сэзону кваліфікаваным рабочым.

3) Знайсьці практычныя мерапрыемствы на рацыянал зацыі аддзельных працэсаў работы (пагрузка торпу, пераноска яго, перасоўваньне машын і г. д.) што дасьць найменшую затрату для гэтага часу і рабочай сілы.

б) Каляндарны плян (прыкладна)

| №№ па пар. | Назва пытаньняў, разглядв. на вытворч. нарадах. | Калі абгавар пытаньне, | Тэрмін падрыхт пытаньня ў камісіі ці кт, ве | Калі прадст патрэб матар'ял адмін |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Прапрацоўка пытаньня арганізацыі і падрыхтоўкі кваліфікаванай раб. сілы з месц. батрацтва (арганіз. арцеляў) | 15-IV | 1—15-IV | 1-IV |
| 2 | Прапрацоўка і ўстанаўленьне норм выпрацоўкі на адзінку . . | 15-V | 1—15 V | 1-V |
| 3 | Абгаварэньне мерапрыемства па зьменшаньню прагулаў і па вялічэньне вытворчасьці на 15-20 проц. . | 10-VI | 1—10 VI | 1-VI |
| 4 | Пытаньні рацыяналізацыі вытворчых працэсаў (перасоўваньне машын, пераноска і пагрузка торпу, пабудова перамычак, зьнішчэньне розных перашкод) . . . . . | 1-VII | 15-VI-I VII | 15-VI |
| 5 | Пытаньне сваечасовага забесьпячэньня рабочых інструмэнтамі (замена папсаваных інструмэнтаў), сваечасовае забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня . . . . . . . | 20-VII | 10—20 VII | 10-VII |
| 6 | Пытаньне вылучэньня рабочых . . . . . | 10-VIII | 1—10-VIII | 1-VIII |

## Б Дырэктывы ЦП Саюзу.

### Аб праведзеньні працдагаворнай кампаніі на батрацтва і пастушаства ў 1929 г.

У адпаведнасьці з пастановамі IX Усебеларускага Зьезду Саюзу ў працдагаворнай кампаніі 1929 г. саюз павінен дабіцца ажыцьцяўленьня наступных задач:

1) Дагаворамі ахапіць ня менш 60.000 батракоў і пастухоў.

2) Заключыць дагаворы на ўсе 100 проц. батракоў, занятых у кулацкіх гаспадарках.

3) Павялічыць зарплату батракоў і пастухоў.

4) Дабіцца строгага прымяненьня К. Законаў аб працы да кулацкіх гаспадарак.

5) Шырока ўцягнуць само батрацтва ў барацьбу за палепшаньне ўласных умоў працы.

6) Садзейнічаць у абхопе сацыяльным страхаваньнем у 1929 г. ня менш 30.000 батракоў і пастухоў.

Для выканаваньня гэтых задач саюзныя арганізацыі павінны:

**У працягу сакавіка і красавіка Акрпраўленьні**

1) Не пазьней 2/III скласьці канкрэтныя пляны правядзеньня працдагаворнай кампаніі.

2) Да 15 красавіка намеціць і правесьці патрэбнае пашырэньне сеткі сельрабачкомаў і ўпаўнаважаных дзеля таго, каб імі былі ахоплены ўсе сельсаветы ў межах раёну. Работу гэту правесьці з такім разрахункам, каб раёныя інструктары непасрэдна зусім не займаліся заключэньнем працдагавораў, а свае сілы цалкам скарысталі для дапамогі ў рабоце сельрабачкомаў і ўпаўнаважаных.

3) Мабілізаваць для дапамогі і кіраваньня работай па заключэньні дагавораў найбольшую калькасьць членаў рабачкомаў і АП і актыву. Так разьмяркаваць свае сілы, каб у кожным сельрабачкоме, у кожнага ўпаўнаважанага і ў кожным раёне для практычнай дапамогі і кіраваньня быў ня менш як адзін член АП на працягу ня менш 10 дзён. Сталыя работнікі АП і раёныя інструктары ў працягу з красавіка па чэрвень ня менш 75 проц. часу павінны знаходзіцца ў сельрабачкоме, ці у раёне.

Да 15-IV-1927 г. у кожным раёне правесьці інструкцыйныя нарады для ўсіх вылучаных па заключэньню працдагавораў работнікаў. На іх дэталёва прапрацаваць усе пытаньні, зьвязаныя з працдагаворнай кампаніяй.

4) Скласьці арыентыровачныя запатрабаваньні да асобных груп наймальнікаў.

5) Правесьці раёныя (па адміністрацыйных раёнах) батрацкія канфэрэнцыі.

**Сельрабачкомам.**

6) Да 1-га красавіка скласьці плян правядзеньня працдагаворнай кампаніі і цьвёрда вызначыць: саюзныя запатрабаваньні, якім парадкам, якімі сіламі, калі і ў якія тэрміны правесьці заключэньне дагавораў і падрыхтоўку да іх.

7) Вызначыць работнікаў, якія будуць весьці падрыхтоўку і заключэньне дагавораў.

8) Разгарнуць растлумачыцельную работу гэтак, каб кожны батрак і пастух:

а) Прыняў удзел у ўстанаўленьні саюзных запатрабаваньняў да наймальніка і добра ведаў іх;

б) Ведаў, як і калі можа на яго быць заключаны працдагавор;

в) Быў бы азнаёмлены з тымі умовамі і правамі, якія прадугледжаны для яго ў законах.

Для гэтага правесьці:

а) Шэраг спэцыяльных сходаў батрацтва і пастушаства;

б) Асобныя групавыя сходы батрацтва, занятага ў кулацкіх гаспадарках: (адна-дзьве вёскі, чалавек 5-10) для падрабязнага азнаёмленьня батракоў з законам ад 20-га лютага г. г. „пра парадак дастасаваньня Кодэксу Законаў аб Працы да кулацкіх гаспадарак“, з Кодэксам Законаў аб Працы і парадкам сацыяльнага страхаваньня;

в) Асобныя групавыя сходы грамадзкага пастушаства.

9) Скласьці і абмяркаваць на батрацкіх сходах запатрабаваньні да наймальнікаў паасобку для кулацкіх гаспадарак, для грамадзкіх пастухоў і серадняцкіх гаспадарак. Запатрабаваньні складаць на падставе арыентыровачных запатрабаваньняў Акрпраўленьня, вучота мясцовых умоў, вопыту і умоў мінулых гадоў.

10) Да пачатку заключэньня працдагавораў правесьці вучот гаспадарак і грамад, наймаючыхбатракоў і пастухоў. У вучот павінны быць уключаны як гаспадаркі ўжо наняўшыя батракоў, таксама і тыя, якія хаця бы яшчэ не нанялі ў гэтым годзе, але ў мінулыя гады сыстэматычна наймалі і ў гэтым годзе зьбіраюцца наймаць. Вучот скласьці на падставе сьпіскаў кулацкіх гаспадарак, асабістых ведаў членаў сельрабачкомаў і сельсавету, і працдагавораў мінулага года.

11) Усю саюзную культработу прыстасаваць і шырока выкарыстаць для растлумачваньня ў час працдагаворнай кампаніі законаў і саюзных запатраба-

ваньняў: арганізаваць спэцыяльныя гурткі, праводзіць галосныя чыткі, наладзіць асьвятленьне ў насьценгазэце, слуханьне радыё і г д. Дагаварыцца аб удзеле ў этай рабоце палітасьветных хат-чыталень.

12) Захаваць такую чарговасьць ў заключэньні дагавораў: у першую чаргу заключаць дагаворы на членаў саюзу і занятых у кулацкіх гаспадарках, далей—на гадавых батракоў, на грамадзкіх пастухоў і пасьля гэта а на сэзонных у серадняцкіх гаспадарках. У адпаведнасьці з гэтым складаць пляны і вызначаць тэрміны заключэньня дагавораў.

У асноўным заключэньне дагавораў закончыць да 1-га чэрвеня.

### У кулацкіх гаспадарках.

13) Пры складаньні запатрабаваньняў і заключэньні дагавораў дабіцца:

а) Павялічэньня зарплаты супроць сярэдніх арыентыровачных запатрабаваньняў мінулага года ня менш як на 20 проц.

б) Не дапусьціць ні воднага выпадку заключэньня дагавору з кулацкай гаспадаркай на падставе „Часовых Правіл";

в) Рабочы дзень строга абмяжоўваць 8-мі гадзінамі для дарослых і 6-цю для падлёткаў, а на ўстанаўленьне ў летні час падоўжанага да 10 гадзін рабочага дню, згаджацца толькі пры умове павялічэньня зарплаты, ня менш як на 1/3 (дзеля гэтага трэба перш за ўсё дамаўляцца пра разьмер асноўнай зарплаты і ўжо пры абгаварэньні пункту пра рабочы дзень высоўваць запатрабаваньні аб павялічэньні яе за дадатковыя 2 гадзіны);

Ні ў якім разе не дапушчаць ўстанаўленьня выплаты зарплаты ў канцы тэрміну найму, ці па патрабаваньню, строга прытрымлівацца штомесячнай выплаты;

д) У адпаведнасьці з п. 10 закону за 20/II г .г. грашовая частка зарплаты павінна быць большая, ня менш як у два разы, чым каштоўнасьць харчоў і натуры (спэцаддзеньне і кватэра ня ўлічваюцца);

е) Перад заключэньнем дагавору абавязкова азнаямляцца з умовамі дагавораў, заключаных з гэтай гаспадаркай у папярэдн ія гады і тым самым не дапушчаць пагоршаньня супроць мінулага;

ж) Не дапушчаць найму дзяцей маладзей 12 год, пры выяўленьні гэткіх у кулацкіх гаспадарках, працдагавору на іх не заключаць, а зараз жа паведамляць сельсавет, ці райупаўнаважнага па працы, патрабуючы прыцягненьня гэткага кулака да адказнасьці ці ў асобных выпадках—заключэньня сельсаветам дагавору на выхоўваньне як малалетка;

з) Выкарыстоўваць у адносіне кулацкіх гаспадарак пункт 47 Кодэксу Законаў аб Працы. пра тое, што звальненьне рабочага можа вытварацца толькі па згодзе з саюзам і толькі пры наяўнасьці прычын, паказаных у гэтым артыкуле Уразумець, што сканчэньня тэрміну дагавору не дае права на мэханічнае звальненьне сталага батрака;

і) Разгарнуць работу на абароне часовых і зьдзельных рабочых у кулацкіх гаспадарках:

У выпадках сыстэматычнае работы ў гаспадарцы падзеншчыкаў і зьдзельшчыкаў патрабаваць і заключаць асобныя згоды аб умовах іх працы:

Дабівацца, каб у раёнах, дзе значна пашыраны наём кулацтвам часовых і зьдзельшчыкаў—РВК устанаўлівалі—б абавязковыя падзённыя і зьдзельныя цэны для паасобных пэрыядаў (на час вясенняга пасеву, касьбы, жніва і г. д.) ніжэй якіх ніхто ня мае права плаціць.

Нападзіць сталы нагляд за скарыстаньнем і умовамі працы падзенных у кулацкіх гаспадарках і работу сярод іх (растлумачваньне прац. законадаўства, саюзных запатрабаваньняў).

### Для грамадзкіх пастухоў.

14) а) Дабівацца павялічэньне зарплаты супроць арыентыровачных запатрабаваньняў мінулага года на 10%;

б) Устанаўленьне харчаваньня і жыльля (асабліва) у адным месцы, а не па чарзе;

в) Точнага абгаварэньня ў дагаворы парадку скарыстаньня дзён адпачынку (патрабаваць падмены ў гэтыя дні, устанавіць парадак яе у дагаворы).

### У серадняцкіх гаспадарках.

15 а) Дабівацца павялічэньня зарплаты супроць арыентыровачных запатрабаваньня мінулага года на 10%;

б) Недапушчаць устаноўленьня часткі зарплаты, якая выдаецца батраку на рукі, ніжэй 50% дзяржмінімуму (г. зн. ня менш 4-х рублёў);

в) За павялічаны рабочы дзень улетку, патрабаваць павялічэньня аплаты.

г) Дабівацца ўстанаўланьня ў дагаворах для сталага батрацтва адпускоў з разьліку адзін дзень за кожны прапрацаваны месяц;

д) Зжыць меўшыяся выпадкі ўстанаўленьня процантных адлічэньняў у саюз ад серадняцкіх гаспадарак звыш 2%;

### У адносіне ўсіх груп батрацтва і пастушаства.

16) Рашуча зжыць меўшыяся у мінулы час выпадкі заключэньня дагавораў без папярэдняе асобнае дагаворнасьці з батраком. Пра кожны пункт дагавору прадстаўнік саюзу павінен папярэдня да заключэньня яго дагаварыцца асобна з батраком. За нарушэньне гэтага правіла союзныя арганізацыі і асобных работнікаў прыцягваць да адказнасьці.

17) У выпадках нязгоды наймальніка з запатрабаваньнямі саюзу, дагавор на кабальных умовах, г. зн. на горшых умовах, чым прадугледжана ў адпаведных законах, не заключаць, канфлікт аб умовах дагавору перадаваць на вырашэньне ў прымкамісію, а ў вападках злоснае адмовы і кабальнсьці умоў, патрабаваць ад сельсавету, ці ад райупаўнаважнага па працы прыцягненьня наймальніка да адказнасьці.

18) Пашырыць заахвочваньне батрацтва да захоўваньня атрыманага заробку ў касах ашчаднасьці, у каапэрацыі і г.д. у асобных выпадках са згодай батрака устанаўляць у дагаворы, што наймальнік абавязан у вызначаныя тэрміны ўносіць непасрэдна ў касу ашчаднасьці на імя батрака належную яму зарплату, прычым ашчадная кніжка павінна знаходзіцца у батрака.

19 Дзеля спрашчэньня работы па заключэньню дагавору, дагаворы пісаць толькі ў 3-х экзамплярах, з іх адзін батраку, адзін-наймальніку і адзін у сельсавеце. У сельрабачкоме замест копіі дагавору вясьці толькі кнігу вучоту працдагавораў.

### Работа сельсаветаў.

20) Дабіцца, каб сельсаветы:

а) Праз сваіх членаў наладзілі сталы нагляд за тым, каб кожны наймальнік і грамада заключылі і зарэгістравалі ў сельсавеце пісьмовы дагавор.

б) Усіх выяўленых злосна ўхіляючыхся ад заключэньня дагавору наймальнікаў прыцягвалі-б праз РВК, ці райупаўнаважнага па працы да адміністрацыйнай адказнасьці (штраф);

в) Не пазьней 1-га траўня правялі-б сходы сялян, наймаючых грамадзкіх пастухоў і на іх выбралі-б упаўнаважаных;

Сельрабачкомы і Раённыя інструктары павінны стала штурхаць сельсаветы і РВК у гэтыт напрамку і ва ўсіх выпадках нядбайных адносін і невыкананьня сельсаветам ускладзенай на яго савецкай уладай работы па абароне батрацтва, сваечасова і настойна патрабаваць ад адпаведных арганізацый палепшаньня работы і прыцягненьня да адказнасьці вінаватых. Раённым інструктарам дагаварыцца з Р.В.К. правесьці спэцыяльныя нарады аб абраных у сельсаветы батракоў і наогул членаў нашага саюзу, на якіх падрабязна азнаёміць іх з абавязкамі і парадкам работы сельсавету і РВК па абароне батрацтва, устанавіць, што і як павінен рабіць батрак, абраны у сельсавет для дапамогі яму ў наладжаваньні абароны батрацтва.

На працягу красавіка—чэрвеня заслухаць на агульных сходах батрацтва даклады сельсаветаў, аб іх рабоце па абароне батрацтва.

Старшыня Ц.П. Саюзу. **Вайтэнкаў**

Заг. А. Т. Э. **Гарагляд**

## УСІМ АКРАДДЗЯЛЕНЬНЯМ, РАБАЧКОМАМ, СЕЛЬРАБАЧКОМАМ І СЕЛЬУПАЎНАВАЖАНЫМ САЮЗУ СЕЛЬГАСЛЕСРАБОЧЫХ.

### Аб узаемаадносінах рабачкомаў з кіруючымі саюзнымі ворганамі ў сувязі з ліквідацыяй РК саюзу.

У мэтах паляпшэньня жывога кіраваньня работаю рабачкомаў і с—рабачкомаў, а таксама для прадстаўленьня рабачкомам большай самастойнасьці ў рабоце Прэзыдыумам ЦП прынята пастанова аб ліквідацыі існаваўшых раённых камітэтаў саюзу і аб увядзеньні замест райкомаў раённых інструктароў у кожным адміністрацыйным раёне.

Галоўны абавязак раённага інструктара ў плянавым парадку інструктаваць рабачкомы і дапамагаць рабачкомам па ўсіх галінах саюзнае работы і праверацъ выконваньне рабачкомамі дырэктыў ЦП і Акраддзяленьняў.

У сувязі з ліквідацыяй райкомаў кіраваньне работаю рабачкомаў, с) рабачкомаў і с—упаўнаважаных будзе ажыцьцяўляцца непасрэдна акруговымі аддзяленьнямі, а па Менскай акрузе ЦП саюзу.

Галоўным кіруючым матар'ялам для рабачкомаў павінен быць Бюлетэнь ЦП і газэта „Беларускі Батрак", дзе будуць зьмяшчацца дырэктывы ЦП.

Парадак узаемаадносін рабачкомаў з кіруючымі саюзнымі ворганамі ўстанаўліваецца наступны:

#### Прыём у членны саюзу і выключэньне.

Прыём у члены саюзу і выдача членскіх білетаў ускладаецца на рабачкомы і с—рабачкомы саюзу і праводзіцца ў наступным парадку: пытаньне аб прыёме разглядаецца на пасяджэньні рабачкому і пераносіцца на зацьвярджэньне агульнага сходу, пасьля чаго рабочы камітэт выпісвае членскую кніжку і сьведчыць яе подпісамі старшыні, сакратара і пячаткаю рабачкому. Членскія кніжкі з парадкавымі нумарамі рабачкомы атрымоўваюць у Акраддзяленьнях, а па Менскай акрузе ў ЦП саюзу 2 разы ў год. Чыстыя білеты будуць пасылацца пры ведамасьці, у якой будуць запісаны нумары білетаў і па гэтай ведамасьці рабачкомы павінны браць расьпіску ў атрыманьні білету. Калі на прадпрыёмстве, альбо на вёсцы рабачкому няма, то прыём у члены саюзу адбываецца на сходзе членаў саюзу, пасьля чаго заява ўступаючага і выпісь з пастановы сходу аб прыёме, накіроўваюцца ў Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе ў ЦП для выпіскі білету.

Членскія кніжкі, якім скончыўся тэрмін, абменьваюцца рабачкомамі, старыя кніжкі пасьля пагашэньня (гэта значыць перакрэсьліць усе старонкі кніжкі) зьвяртаюцца на рукі членам саюзу, а там дзе рабачкомаў няма, кніжкі абменьвае вышэйстаячы кіруючы ворган (Акраддзяленьня, ЦП).

Выключэньне з членаў саюзу таксама праводзіцца на пасяджэньні рабачкому і зацьвярджаецца на агульным сходзе, пасьля чаго кніжка забіраецца ад выключанага з саюзу. У выпадках, калі вылючаны з саюзу падае скаргу ў вышэйшы ворган аб неправільным выключэньні, то забраная кніжка, да разгляду скаргі ў кіруючым воргане, не павінна пагашацца.

#### Парадак абслугоўваньня беспрацоўных.

Усе беспрацоўныя члены саюзу, а таксама працуючыя адзіночкі, якія да гэтага часу абслугоўваліся непасрэдна райкомамі, прымацоўваюцца да бліжэйшых рабачкомаў, с—рабачкомаў і с—упаўнаважаных па месцу свайго жыхарства. Рабачкомы і с—упаўнаважаныя ўтвараюць адпаведныя адзнакі ў кніжках беспрацоўных, выдаюць ім дапамогу і абслугоўваюць усімі відамі саюзнае работы нараўне з працуючымі. Паказаньні аб пардку аказаньня дапамогі беспрацоўным будуць дадзены дадаткова.

#### Статыстыка і вучот.

Усе статыстычныя матар'ялы, як напрыклад: карта хуткага вучоту с—рабачкомаў № 1, картка хуткага вучоту рабачкомаў № 4, картка беспрацоўных № 3, картка складу рабачкомаў і с—рабачкомаў № 5 і 5) а, сьпіс калдагавораў форма № 24, картка вучоту працумоў № 8 і інш.

павінны пасылацца непасрэдна Акру о вым Аддзяленьням, а па Менскай акрузе ў ЦП саюзу. Усе карткі і формы павінны запаўняцца вельмі акуратна і без ніякіх спазненьняў накіроўваецца ў вышэйстаячыя саюзныя ворганы.

### Парадак захаваньня пратаколаў.

Ўсе пратаколы пасяджэньняў рабачкомаў, агульных сходаў і розных камісій у Акраддзяленьні і ЦП не пасылаюцца, а застаюцца на мясцох і захоўваюцца ў справах рабачкомаў, толькі ў тых выпадках, калі тое ці іншае пытаньне ня вырашана канчаткова на месцы, альбо калі вышэйшы ворган патрабуе прысылкі пастановы рабачкому па якому--небудзь пытаньню (напрыклад, прапановы да калдагавору), выпіс з пратаколу пасылаецца ў вышэйстаячы саюзны ворган.

Дзеля того, каб не завадзіць непатрэбнае перапіскі, ЦП прапануе ўсім рабачкомам прымаць усе меры да та о, каб канчаткова вырашаць усе пытаньні на мясцох, а ў выпадках немагчымасьці, зьвяртацца за дапамогаю да райінструктароў.

### Фінансавыя ўзаемаадносіны

а) Маркі для ўзніманьня членскіх узносаў рабачкомы і прафупаўнаважаныя атрымоўваюць у Аркаддзяленьнях, а па Менскай акрузе ў ЦП саюзу наступным парадкам:

Маркі выдаюцца рабачкомам 3 разы ў год на чатыры месяцы ў тэрміны: у студзені месяцы—на студзень, люты, сакавік і красавік; ў маі—на май, чэрвень, ліпень, жнівень і г. д.

Пры трэбаваньні марак неабходна накіроўваць у Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе ў ЦП заюзу астачу грошай, сабраных па марках і зьвесткі аб налічцы марак у рабачкоме, што паказваецца ў здачы. Без прысылкі грошай і здачы **новы аванс марак выдавацца ня будзе.**

У мэтах устанаўленья пэўнае запазычнасьці рабчкомаў па марках пры наступным запатрабаваньні авансу на маркі, пасьля атрыманьня гэтае дырэктывы рабачкомы апрача грошай і зьвестак аб налічцы марак перасылаюць заказным пісьмом у Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе ў ЦП маючыся налічныя маркі.

### б) Парадак перасылкі грошай.

Сабраныя членскія ўзносы, фонд беспрацоўных і іншыя цэнтралізаваныя сродкі ( л. бюлетэнь № за 1929 г.), штомесячна, не пазьней аднаго тыдню пасьля выдачы зарплаты, павінны пераводзіцца ў Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе ў ЦП на бягучы рахунак ЦП у усекабанку № 187. Грошы пасылаюцца праз пошту Кошт перасылкі грошай за лік паштовых выдаткаў рабачкомаў, прадугледжаных па каштарысах.

Для пераводу грошай з рабачкомаў у Акраддзяленьні і ЦП,ЦП саюзу заказаны спэцыяльныя пераводныя блянкі, наякіх паказ на назва фондаў. Гэтымі блянкамі ўсе рабачкомы будуць забясьпечаны з разрахунку 2 блянкі на месяц. Пры чым да атрыманьня пераводных блянкаў перасылка грошай не павінна затрымоўвацца.

в) Фінсправаздачы рабачкомаў па форме № 17 адзін раз у тры месяцы накіроўваюцца ў Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе ў ЦП саюзу. Тэрміны прысылкі фінсправаздач, паказаныя на блянках, ні ў якім разе не павінны нарушацца.

г) Каштарысы нізовых саюзных ячэяк складаюцц 2 разы ў год па форме № 10 і пасылаюцца ў вышэстаячы саюзны орган для зацьверджаньня. Тэрміны складаньня каштарысаў не павінны парушацца. Калі рабачком альбо с) прафупаўнаважаны ня можа скласьці каштырысу, то трэба зьвярнуцца за дапамогаю да райінструктара.

### Забясьпячэньне кнігамі і блянкамі.

Кнігі, блянкі, прыходна—расходныя квіткі і іншыя матар'ялы рабачкомы і прафупаўнаважныя атрымоўваюць з вышэйстаячых саюзных ворганаў. Для атрыманьня матар'ялаў рабачкомы і с—упаўнаважаныя ў канцы года пасылаюць заяўку на розныя матар'ялы на наступны год з паказаньнем колькі і чаго прыслаць і ў які адрэс.

Старшыня ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых **Вайтэнкаў**

За . Арг. Аддзелам ЦП **Аскерка**

# Часовае палажэньне аб правох і абавязках раённых інструктароў ЦП Саюзу

Зацьверджана Прызыдыумам ЦП 4 га Сакавіка 1929 г.

У мэтах усямернага разгортаваньня работы па арганізацыі, клясаваму выхаваньню і па абароне эканамічна-правовых інтарэсаў усіх груп сельгаслесрабочых, узмацненьня жывога кіраваньня работаю рабачкомаў, усямернага замацаваньня іх, а таксама для ўвязкі ўсяе работы сярод сельгаслесрабочых з раённымі, партыйнымі, камсамольскімі і савецкімі арганізацыямі, у кожным адміністрацыйным раёне ўводзіцца пасада раённага інструктара ЦП з наступнымі правамі і абавязкамі:

1. Раённы інструктар ЦП праводзіць у каляндарна-плянавым парадку выключна жывое інструктаваньне рабачкомаў, сельрабачкомаў і сельупаўнаважаных саюзу па ўсіх галінах саюзнае работы і практычна дапамагае ў рабоце рабачкомаў.

2. Раённы інструктар правярае выконваньне рабачкомамі дырэктыў ЦП і практычна дапамагае рабачкомам ажыцьцявіць гэтыя дырэктывы.

3. Склікае і кіруе раённымі канфэрэнцыямі саюзу, парадак дню якіх і тэрміны правядзеньня ўстанаўліваюцца ЦП саюзу.

4. Праводзіць перавыбары рабочых камітэтаў і рэўкамісій па сканчэньні тэрмінаў іх правамоцнасьці.

5. Склікае і праводзіць раённыя нарады прафактыву для інструктаваньня апошняга па паасобных галінах і пытаньнях саюзнае работы (культнарады, вытворчыя нарады і інш.).

6. Склікае і праводзіць раённыя і групавыя сходы батрацтва і пастухоў, узгадняючы парадак дню раённых сходаў з ЦП саюзу.

7. Праверае ў парадку інструктаваньня рабачкомаў правільнасьць прыёму ў члены саюзу, сачыць за расходаваньнем членскіх білетаў і ў выпадках выяўленьня нарушэньняў статуту саюзу, даводзіць аб гэтым да ведама ЦП саюзу.

8 Праводзіць пры ўдзеле рэўкамісій рэвізіі грашовых спраў рабачкомаў і праверая сваечасовасьць збору і пераводу ў вышэйстаячыя арганізацыі членскіх узносаў, фонду беспрацоўных і іншых цэнтралізованных паступленьняў (напрыклад-дапамого рабочым капіталістычных краін).

9. Сачыць за сваечасовасьцю пасылкі ў ЦП розных матар'ялаў, якія запрашваюцца ад рабачкомаў (статыстычныя і іншыя матар'ялы).

10. Райінструктар зьяўляецца арганізатарам і кіруе правядзеньнем працдагаворнае работы ў раёне, прымае непасрэдны удзел у заключэньні дагавораў ў сэнсе дапамогі рабачкомам і с упаўнаважным у гэтай рабоце па даручэньню ЦП заключае калектыўныя дагаворы, тарыфныя згоды і арцельныя працоўныя умовы і перадае іх на рэгістрацыю ў належныя ўстановы (Аддзел Працы, РВК). Заключаныя калдагаворы, арцельныя працумовы і тарыфныя згоды ў залежнасьці ад іх значэньня перадаюцца на захаваньне ў адпаведныя рабачкомы, альбо ў ЦП.

11. Праверае выкананьне калектыўных і працоўных дагавораў, норм аховы працы і наогул выконваньне працоўнага законадаўства прадпрыемствамі, установамі і пасобнымі наймальнікамі. Даводзіць да ведама належных ўстаноў аб выяўленых парушэньнях, узьнімае праз рабачкомы канфлікты, прымае удзел пры вырашэньні гэтакіх канфліктаў на месцы і дае належны напрамак для іх канчатковага вырашэньня.

12. Райінструктар арганізуе і кіруе праз рабачкомы удзелам сельгаслесрабочых у грамадзка-палітычнай рабоце, у праводзімых палітычных кампаніям у межах абслугоўваемага ім раёну (перавыбары саветаў, органаў каапэрацыі, КСУ, распаўсюджваньне пазык і др.).

13. Райінструктар увязвае і ўзгадняе ўсе мерапрыемствы па рабоце сярод сельгаслесрабочых з раённымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі.

14. Раённы інструктар знаходзіцца на ўтрыманьні каштарысу ЦП саюзу і забясьпечаваецца безсправаздачна, у разьмерах устаноўленых ЦП саюзу, сродкамі для разьезду па раёну.

15. Ніякое канцэлярыі, штампу і пячаткі райінструктар пры сабе нямае, а таксама ня мае права ўзьнімаць членскія ўзносы, процантныя адлічэньні па дагаворах і розныя другія паступленьні.

16. Месца сталага прабываньня раённага інструктара ўстанаўліваецца пры адным з буйных бліжэйшых да раённага цэнтру рабачкоме саюзу, па адрэсу гэтага рабачкому райінструктар атрымоўвае з ЦП бюлетэнь ЦП і іншыя кіруючыя матар'ялы.

Згодна: Кіраўнік спраў ЦП Саюзу **Юшкевіч.**

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар—**Вайтэнкаў.**

Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 1121. Тыраж 1200. Друкарня Менцэнтрспраўдому.